ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

6 • 2017
чэрвень



Мікола ГІРГЕЛЬ.




N.B. «Нота бенэ» Звярні ўвагу!



Вытворчасць грошай і выдача іх пад пазыковы працэнт – адзін з асноўных механізмаў існавання сусветнай пазыковай эканомікі.

Каб не залежаць ад знешніх пазык, разглядаецца пытанне аб увядзенні спецыяльных сертыфікатаў. Як і афіцыйныя грашовыя адзінкі, яны змогуць мець намінал і свабоднае абарачэнне ў межах дадзенай гаспадаркі, у тым ліку прымацца ў сельскіх крамах.






Мяркуецца, што хутка асноўным органам кiравання ў беларускіх ААТ па аналогіі з сусветнай практыкай павінен стаць назіральны савет з прафесійных кіраўнікоў.






Але ці адважыцца высокае начальства на прынцыповую ломку сістэмы кіравання дзяржпрадпрыемствамі на фоне складанай эканамічнай сітуацыі ў эканоміцы?








Міхась МІРАНОВІЧ

## Вілы



Няроўна Бог
Нас надзяляе –
Пішу на гэту тэму
Зноўку:
Хтось на Канарах
Вілы мае,
Я ж – вілы, граблі
І рыдлёўку.

## Горш і лепш



Ды кіньце, ўрэшце,
Вашую трывогу,
Усё павінна
З часам вырашацца:
Калі ўжо справы
Горай быць не могуць –
Яны пачнуць патроху
Паляпшацца.

## Ісціна і сінякі



– Кажуць людзі:
Як хто дзе спрачаецца –
Нібы ісціна там
Нараджаецца.
Мы ж вось з сябрам
У спрэчцы счапіліся –
Дык у нас
Сінякі нарадзіліся!

## На кані і пад канём



Заўважу мімаходзь,
Што набалела.
На сёння маем мы
Расклад такі:
Быць на кані –
Канечне, лепш на белым,
А пад канём –
Усё роўна, пад якім.



## Народ і мова



Ёсць прыкладаў
У свеце дастаткова –
Няма народа,
Ды жывая мова.
А вось у нас
Усё наадварот –
Знікае мова,
Хоць жывы народ...



*г. Віцебск.*



Алег КАРПОВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.




# Пярэварацень у рызе

*Міні-фельетон*

У дзверы Валерыі Сяргееўны раптоўна пазванілі. Яна з асцярогай паглядзела ў вочка: на парозе стаяў мужчына ў рызе. Жанчына здзівілася і спытала:

– Хто там?

– Добры дзень, мяне завуць Аляксандр. Я бацюшка.

Валерыя Сяргееўна, пачуўшы такія словы, адразу ж адчыніла:

– Праходзьце, калі ласка, што вас прывяло да мяне?

– Вялікі дзякуй, я з добрым намерам абыходжу кватэры ў вашым доме. Царква збірае грошы для лячэння дзяцей з анказахворваннямі, можа, вы чымсьці можаце дапамагчы? – распавёў бацюшка.

– Ой, канешне! Бедныя малыя! Зразумела, я зараз штосьці ахвярую, – завойкала жанчына і кінулася да кашалька. – Вось бярыце, прабачце, але колькі ёсць.

– Мы шчаслівыя любым ахвяраваннем, дзякую, – Аляксандр узяў грошы. – А яшчэ, ведаеце, ёсць магчымасць асвяціць вашу кватэру. Да нас у хуткім часе манахі з Грэцыі прыедуць. Вам трэба толькі запоўніць заяўку, а я ўжо яе ім перадам.

– Ой, як добра. А колькі гэта каштуе? – зацікавілася Валерыя.

– Колькі дадзіце, – адказаў святар.

– Столькі хопіць? Прабачце, што доларамі, больш ніякіх няма, – жанчына працягнула каштоўную паперку.

Бацюшка Аляксандр хуценька схаваў грошы і дадаў:

– А яшчэ можаце купіць ладанку.

– Прабачце, але больш грошай няма. Можа, іншым разам, – прамовіла жанчына.

– Добра. Тады бывайце, пайду далей. Усяго вам найлепшага, – і святар выйшаў з кватэры.

Жанчына зачыніла дзверы і занялася хатнімі справамі. Але раптоўна ў галаве ўзнікла думка: «Нейкі дзіўны ўсё ж такі бацюшка, як несапраўдны». Потым пракруціла ў галаве ўсю размову і ўпэўнілася: яе абдурылі.

Валерыя Сяргееўна кінулася ў міліцыю. Напісала заяву, што святар падманам атрымаў ад яе 35 долараў. Праваахоўныя органы зацікавіліся гэтым выпадкам і ў хуткім часе выявілі яшчэ некалькі падобных здарэнняў з удзелам «пярэвараценя ў рызе». Нарэшце яго затрымалі. Гэта быў беспрацоўны 44-гадовы ашуканец, які не меў ніякіх адносін да царквы.

Зараз вядзецца следства. Магчыма, мужчына мае дачыненне і да іншых падобных інцыдэнтаў у Мінску і ў іншых гарадах Беларусі.

«Пярэварацень у рызе», безумоўна, адправіцца за краты. Там усё чарадзейства спадзе, і ён стане самым звычайным зняволеным.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**







Алег ПАПОЎ х 2.

# Анекдоты

Прачынаецца раніцай тата-мядзведзь, падыходзіць да стала і грозна рыкае:

– Хто еў з маёй міскі?

Медзведзяня таксама бяжыць да стала і грозна пішчыць:

– А хто еў з маёй міскі?



Мама-мядзведзіха, стоячы ля пліты:

– Ох, як вы мне надакучылі! Ды не гатавала я яшчэ!



* * *

Пастар зайшоў да старога Свэнсана і застаў яго ў ложку хворым. Побач на тумбачцы стаяла бутэлька віскі.

– Няўжо гэта ваша апошняе суцяшэнне, сын мой?

– Не, у шафе ёсць яшчэ бутэлька.



* * *

Палкоўнік расказвае анекдот. Усе афіцэры, за выключэннем аднаго лейтэнанта, смяюцца.

– А вы, лейтэнант, чаму не смеяцеся?

– Я не з вашай часткі, таварыш палкоўнік...



* * *

Вовачка ўжо тыдзень просіць бацьку, каб той схадзіў з ім у заапарк, але бацька, спасылаючыся на занятасць, усё абяцае зрабіць гэта як-небудзь потым. Нарэшце жонка яму кажа:

– Калі ты зводзіш сына ў заапарк? Яму ж задалі пісаць сачыненне пра жывёл.

Рабіць няма чаго – прыйшлося весці хлопчыка. На наступны дзень настаўніца пытае ў Вовачкі:

– Я не зразумела адзін сказ у тваім сачыненні: «Мой тата быў вельмі рады, калі ў заапарку першым прыйшоў конь, на якога ён паставіў «30 да аднаго».

**Даслаў Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*






Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Праблемы харчавання, ці Шырокая костка



*Фельетон*



– Мікіта – таўстун, пуза як кавун! – цвялілася з хлопчыка на вуліцы група дзяцей.

Той ішоў, панурыўшы галаву, і, здаецца, не чуў абраз у свой бок. Але дзеці не супыняліся, яны смяяліся яму ўслед і паўтаралі крыўдныя словы. Нарэшце Мікіта не вытрымаў, павярнуўся і, ледзь не плачучы, закрычаў:

– Чаго вы да мяне прычапіліся? Я зусім не тоўсты і далёка не кавун! Нічога не разумееце, у мяне проста костка шырокая!

Дзеці з гэтых слоў пачалі рагатаць, ад кагосьці пачулася:

– Ага, так і сумаісты адказваюць!

Хлопчык захныкаў і куляй кінуўся да дзвярэй свайго пад'езда. У кватэры ён канчаткова расплакаўся.

– Што здарылася, сынок? – выйшла з кухні ягоная маці Вікторыя. – Хто цябе пакрыўдзіў?

– Мяне зноў таўстуном дражнілі, – хліпаючы носам, азваўся Мікіта.

– Вось гэтыя дзеці! Дабяруся я да іхніх бацькоў і паскарджуся, – лямантавала маці. – А ты супакойся, лепш мульцікі паглядзі, пакуль я абед гатую, а вечарам сходзім гамбургеры з бульбай-фры паядзім ды цацку новую купім, табе гэта заўсёды настрой узнімае.

Хлопчык заўсміхаўся і пабег у залу ўключаць тэлевізар.

Жанчына ж пайшла на кухню, дзе сядзела яе сяброўка Люся, якая завітала ў госці.

– Ты бачыш, што робіцца? Зусім дзеці ашалелі, праходу майму хлопцу не даюць, абраза на абразе. Які ж ён тоўсты? Гэта звычайная дзіцячая пухнатасць, з узростам пройдзе, – пажалілася маці Мікіты.

Люся не спяшалася з адказам. Яна доўга ўглядалася ў твар сяброўкі і не адважвалася выказаць сваю думку. Але ў рэшце рэшт прамовіла:

– Ведаеш, маёй дачцэ Сонечцы 13 гадоў. Тыдзень таму яна прыйшла са школы, зачынілася ў сваім пакойчыку і адмовілася размаўляць. Я пачала разбірацца, што здарылася. Малая маўчала спачатку, а потым выпаліла: «Я тоўстая і буду садзіцца на дыету». Шчыра кажучы, смешна стала ад гэтых слоў. Ты ж бачыла маю дачку – паўтара метра росту і скура ды косці.

– Дурнічка малая, – уздыхнула Віка. – Нагледзелася на мадэлей у глянцавых часопісах ды дурасцю займаецца.

– І я ёй так сказала. Але істэрыка не спынілася. Таму вырашыла знайсці доказы, што ніякая яна не тоўстая. Цэлы вечар шукала дадзеныя пра норму вагі для дзяцей. Нават знаёмай педыятру пазваніла, каб цалкам упэўніцца, што ўсё зразумела правільна, – папіваючы каву, расказвала Люся. – На наступны дзень, як толькі Сонечка вярнулася са школы, я зайшла да яе. Спачатку прымусіла стаць на вагі, якія паказалі 42 кілаграмы. Потым пачала лекцыю па матывах сваіх даследаванняў. Узгадала пра здаровае харчаванне, пра генетычную схільнасць. А ў канцы паказала табліцу нормы вагі і росту ў дзяцей і падлеткаў, якую даслала мая знаёмая ўрач. Па ёй атрымлівалася, што рост у Сонечкі ў поўнай норме, а вось вага нават крыху ніжэйшая за сярэднюю. Ты б бачыла, якая яна шчаслівая стала. У адно імгненне думкі пра дыету зніклі.

На гэтым жанчына замоўкла, паглыбілася ў свае думкі і праз некалькі хвілін працягнула:

– Але лепш я буду ўважлівей за Сонечкай сачыць. Хто ведае, што ёй заўтра ў галаву ўзбрыдзе. Хлопцы і дзяўчаты ў гэтым узросце любяць кідацца з крайнасці ў крайнасць. То хочуць набраць вагу ці наадварот скінуць. А гэта можа дрэнна сказацца на іх здароўі і псіхалагічным стане.

– Глупства ды і толькі! Якая худзізна ці паўната можа быць у дзяцей? – выпаліла Віка.

– Канешне, тваё права так меркаваць, але па статыстыцы, якую я чытала, 25-32 працэнтаў дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў маюць лішнюю вагу. А гэта можа мець дрэнныя наступствы для здароўя: павышэнне артэрыяльнага ціску на 10 працэнтаў і больш адносна ўзроставай нормы, змена адчувальнасці тканак і рэцэптараў да інсуліну, павышэнне ўзроўню глюкозы, халестэрыну ў крыві. У выніку гэта прыводзіць да гіпертаніі, ішэмічнай хваробы сэрца, цукровага дыябету і нават інсульту ці інфаркту, – канстатавала Люся.

– Як такое магчыма? – не паверыла Віка.

– Усё празаічна: у першую чаргу гэта звязана з маларухомым ладам жыцця. Ты толькі ўзгадай, як мы гойсалі па вуліцы ў дзяцінстве. Дахаты было не загнаць! Мы бегалі, каталіся на веласіпедах, актыўныя гульні прыдумлялі. А зараз што? Камп'ютар, тэлевізар і больш нічога не патрэбна. Другое, не менш значнае месца ў праблеме дзіцячай паўнаты, займае няправільнае харчаванне. Усе гэтыя гамбургеры, чыпсы, сухарыкі і іншыя падобныя прадукты не нясуць аніякай карысці для арганізма, – узрушана расказвала Люся. – Дзецям трэба паўнавартаснае харчаванне. Садавіна, гародніна, правільныя суадносіны бялкоў, тлушчу і вугляводаў.

– Шчыра кажучы, ніколі пра гэта не задумвалася... А калі разважыць, то мой Мікіта і сапраўды не цягнецца да спорту, ды і харчуецца як папала... А што рабіць, калі я ўсё запусціла? Трэба выправіць становішча, можа, у яго і сапраўды праблемы з вагой? – з хваляваннем у голасе запытала Віка.

– Тут, галоўнае, «самалячэннем» не займацца. Схадзі да педыятра, пракансультуйся. Ён пралічыць суадносіны вагі, росту і ўзросту твайго малога. Назначыць аналізы, калі будзе трэба, а там ужо раскажа, што і як далей рабіць, – параіла сяброўка. – Больш пільна сачы за ягоным харчаваннем і не дазваляй увесь вольны час сядзець на канапе.

У гэты момант Мікіта зайшоў на кухню:

– Мама, а калі мы пойдзем есці гамбургеры?

– Ведаеш, мой даражэнькі, а давай мы паспрабуем абысціся без іх. Сядай, лепш супчыку паеш, я салату карысную прыгатавала і грэчку з падлівай, – прапанавала Віка.

– Гэта не смачна! – пачаў капрызіць малы.

– Мне здаецца, што зусім я цябе распесціла. З гэтага дня ніякай нездаровай ежы! Сходзім да ўрача, а потым паглядзім, можа, на секцыю якую цябе адвяду. Як табе плаванне? – загадкава паглядзела на Мікітку маці.

– Я не ведаю... А ў мяне атрымаецца? – недаверліва прамовіў Мікіта.

– Не сумнявайся! Ты толькі моцы набярыся, а яна не ў фаст-фудзе, а ў маміным супе, салаце і грэчцы з падліўкай. Я дарослая, ведаю дакладна, – падміргваючы Віцы сказала Люся.

Пасля гэтых слоў Мікіта ўпэўнена сеў за стол і пачаў наварочваць за абедзве шчакі смачную і, што важна, карысную ежу.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

# Дыялогі

## Перастаў баяцца

Сустрэліся знаёмыя.

– Кажуць, што ты пайшоў на пенсію. Як настрой?

– Выдатны! Начальніка больш не баюся, засталася толькі жонка...

## Ведае свайго мужа

– Чаму ты не адказваў на мае тэлефонныя званкі? – цікавіцца жонка ў мужа – гаспадара фірмы.

– А ў мяне рукі былі занятыя... – пачынае апраўдвацца той.

– Што, ляжалі на каленях у тваёй сакратаркі?! – раздражнёна перабівае яго жонка.

## «Пахваліўся» памяццю

– Добры дзень! Хіба не пазналі мяне?

– На жаль...

– А я вас добра ведаю! Вы ж мой былы настаўнік, не памятаю толькі, які прадмет выкладалі...

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Антыпрыгарнае адкрыццё.

Працай любімы чалавек.

Складаныя замовы надвор'я.

Смешная зіма.

Спартыўныя конкі.

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г.п. Уваравічы.*




Алег КАРПОВІЧ.



Алег ГУЦОЛ.

**Васіль ТКАЧОЎ**

# ПЛЯТКАРКУ ВЫКЛІКАЛІ?



*Апавяданне*

Звечарэла. Баба Каця сядзела на зэдліку і царавала панчоху, калі раптам трэнькнуў званок. «Хто б мог быць?» — старая з крэктам узнялася, патупала да дзвярэй, папытала, каго гэта прынесла нялёгкая, а калі пачула жаночы голас, не пабаялася і ўпусціла ў пакой мажную кабету. Ледзь пераступіўшы парог, тая энергічна заявіла:

— Пляткарку выклікалі?

— Каго-каго? — не зразумела баба Каця.

— Пляткарку! Мяне значыць, — патлумачыла госця. — Бачу, не разумееш, бабця? Дазволь прайсці і сесці.

— Калі ласка, — баба Каця нясмела паказала рукой у бок залы.

— Дзякуй. Я з суседняга дома. Цябе, між іншым, часта бачу на лаве перад пад'ездам.

— Дык а дзе мне яшчэ быць? — развяла рукамі баба Каця, усё яшчэ не разумеючы, што ад яе хоча госця.

Прайшлі ў залу, селі.

— Ты, бачу, адна жывеш? Ну-ну. Дык пытаю, пляткарку выклікала, га, бабуся? — і не даўшы старой прыйсці ў сябе, ачомацца, працягвала. — Бачу, не. А дарэмна. Інфармую: пры нашай жыллёва-камунальнай гаспадарцы пачаў працаваць клуб пляткарак. З учарашняга дня. Скажы, навошта нам, бабулькам, сядзець на лаўцы і плёткі разводзіць? Ды яшчэ бясплатна? Не той час. Пара грошы зарабляць. І мы вырашылі аб'яднацца, займець свой кабінет, каб працаваць круглы год. Узімку ж на лаве не пасядзіш, а язык свярбіць заўсёды. Зрабілі пячатку: круглую, з гербам — усё чын чынам. Тыя бабкі, якія ўжо амаль хадзіць не могуць, будуць пляткарыць па білетах у памяшканні, а мы, маладзейшыя, абслужым і на даму. Га? Як? Назву свайму клубу пакуль не прыдумалі, але за гэтым справа не стане. Галоўнае, што цяпер мы — сіла! Прабач, бабуля, не прадставілася: Лізавета Кірылаўна Тузкова, галоўны пляткар мікрараёна і заснавальнік клуба. Вось вам мая візітоўка, — яна амаль сілком торкнула яе ў руку старой. — Трымай, трымай. Заходзь, тэлефануй. Калі ёсць жаданне, запішам у клуб. Хоць з заўтрашняга дня. Твой вопыт нам спатрэбіцца — бачу цябе кожны дзень на лаве перад пад'ездам. Накажы і сяброўкам. Мы вам будзем толькі рады. Нам прафесійныя кадры вельмі патрэбны. Ну, а цяпер паслухай апошнія плёткі...

І яна расказала старой пра тое, што тая і сама добра ведала. Хто каму здрадзіў, хто з кім рашыў скасаваць шлюб, хто што есць і п'е. Нават выказала сваю версію, чаму інжынер Мятлікаў перастаў з імі вітацца, праходзячы каля лавы на працу і вяртаючыся з яе. Апошняе хвалявала і бабу Кацю.

Нарэшце Лізавета Кірылаўна скончыла пляткарыць, глыбока ўздыхнула, прамовіла, чакаючы спагады:

— Фу, стамілася! Сёння ў мяне напружаны дзень — у сёмай кватэры пляткарыла. — І раптам, бы маланкай цюкнула, заявіла: — Так, значыць, разлічваемся, баба Каця, і я пабегла далей. Можа, паспею яшчэ пабываць у дзвюх-трох кватэрах. З цябе дзесяць рублёў. Тры за выклік, сем — непасрэдна ганарар... Вось квіток, распішыся...

Баба Каця разявіла рот:

— За што?

— Як за што?! — абурылася Лізавета Кірылаўна. — За маю работу! Не жартачкі ж — амаль гадзіну пляткарыла! Хіба не зарабіла? Ну, народ! Прывыклі, падавай ім усё бясплатна! Ай-я-яй, бессаромнікі!..

— Мы ж… мы ж бясплатна пляткарым на лаве! — зноў развяла рукамі баба Каця. — Ого, каб яшчэ грошы бралі за свае плёткі — на «мерседэсах» ездзілі б!

— А я пра што табе таўку? — пастаралася ўсміхнуцца Лізавета Кірылаўна Тузкова. — Тым больш, што катэгарычна забаронена на лаве пляткарыць. Катэгарычна! Канец вашай беззаконнасці. З заўтрашняга дня ўсё мяняецца. Адстаеш, адстаеш ты ад жыцця, мая дарагая. Мы ўсё прадугледзелі, таму і стварылі клуб. Зарэгістраваліся, будзем падаткі плаціць, і нас ніхто пальцам не кране. Пра бясплатнае пляткарства на лаве забудзь. Цяпер міліцыянеры маюць права на вас штраф накласці. А вам што, ахвота мець з міліцыяй стасункі? Пляткарыш і зіркаеш па баках — ці не ідуць? Гэта не справа. Сядзець, бы на іголках, — каму такое трэба? Вам, бабулі? Убачыш міліцыянераў — і забудзеш, пра што гаварылі, на чым спыніліся. Да таго ж, яны могуць быць і ў грамадзянскім адзенні. Падыдуць, сядуць побач, быццам адпачываюць або чакаюць каго, а самі вушы тырчком. Ага, пляткарыце! Дзе ліцэнзія? Пакажыце! А яе няма. Плаці штраф. Таму і аб'ядналіся мы ў клуб. Нас, пляткарак, голымі рукамі не возьмеш. Нас не правядзеш. Ну, а з цябе, бабуля, пакуль ты яшчэ не ў нашым клубе, — дзесяць рублёў за выклік на дом.

Баба Каця зусім разгубілася:

— Я ж… я ж цябе, дачушка, не выклікала.

— Ды гэта дробязі. Афармім, як выклік. Хто там разбірацца будзе! Нам жа трэба жыць. Ну, а заўтра ты сама пойдзеш па выкліку. Паглядзі, колькі вокнаў свеціцца ў нашым горадзе! Так што без працы не застанемся, не хвалюйся. На наш век хопіць.

Баба Каця моўчкі падала дзесяць рублёў, пакінула аўтограф у ведамасці, і паабяцала заўтра ж запісацца ў клуб і адразу выйсці на працу — пара і сапраўды зарабляць грошы, хопіць бясплатна пляткарыць!..

*г. Гомель.*



## ПЛЁТКІ

Па зямлі гуляюць плёткі,
Век іх доўгі ці кароткі —
Жывяцца адным махлярствам,
Абражаючы спадарства.
Маюць звычку прычапіцца
Да таго, хто не баіцца
Жыць па-свойму, адмыслова.
І вось так, за словам слова,
Узнікаюць небыліцы,
Толькі слухаць — і дзівіцца.
Ледзь не з кожнага падворка
Чуецца штодня гаворка,
Пляткар байку прыдумляе
Ды за спінамі знікае.
Каб памерла пагалоска,
Ставіць трэба ў час не коску,
Але кропку ў навіне,
Замінаючы мане.

**Таццяна ЖОГАЛЬ,**
*г. Гомель.*




Пётр КОЗІЧ.



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

Андрэй СІДАРЭЙКА




Марылю запрасіла да сябе ў госці дачка. Ды не абы-куды, а ажно ў абласны цэнтр. З аднаго боку, ехаць каля трохсот кіламетраў, а з другога, чаму б не наведацца да родных? Апошні раз у іх была дзесяць гадоў таму на народзінах малодшай унучкі. Дагэтуль дачка з сям'ёй заўсёды самі прыязджалі.

«Хоць вокам зірну, як яны там абжыліся», — падумала жанчына.

Даверыўшы суседцы гаспадарку, Марыля адправілася ў дарогу. Доўгачаканую госцю на вакзале сустрэлі дачка і зяць, прывезлі ў кватэру, дзе яе з радасцю пачалі абдымаць унучкі Даша і Ксюша.

Дачка хуценька накрыла стол і запрасіла ўсіх на абед. Марыля паспрабавала першую страву і ледзь не папярхнулася. Нібы камяк, ежа стала ўпоперак горла.

— Што гэта? — ледзь праглынуўшы, пацікавілася жанчына.

— Гарбузовая каша, — адказала дачка.

— У ёй шмат вітамінаў і карысных элементаў, — дадаў зяць, са смакам уплятаючы страву за абедзве шчакі.

— Дыетычная, — дадала малодшая ўнучка Ксюша.

«Відаць, з грашыма ў іх зусім дрэнна», — падумала старая і пашкадавала, што не захапіла з сабой з вёскі сала.

З-за стала Марыля выйшла паўгалоднай. Але нічога не сказала і села адпачыць у зале на канапу. Унучкі пачалі збірацца на вуліцу і апранулі джынсы з дзіркамі.

— А божачкі! — усклікнула Марыля. — Няўжо ў вас іншага адзення няма? Хіба прыстойна хадзіць у абдзіртусах?

— Гэта ж апошні піск моды, бабуля, — засмяяліся дзяўчынкі.

«Трэба будзе грошай з пенсіі адкласці ўнучкам на новае адзенне», — зазначыла сабе Марыля.

Ёй было некамфортна ў даччыным доме. Кватэра на дванаццатым паверсе! Зірнеш у акно — галава кругам ідзе. Вада нясмачная, паветра бруднае і цяжкае.

Ноччу Марыля адчувала сябе дрэнна. Жывот бурчэў ад нязвыклай ежы, ложак з навамодным матрацам быў нейкі мулкі. Вельмі захацелася дадому.

Таму на наступны дзень яна зазбіралася назад. Дачка і зяць угаворвалі Марылю застацца, але старая апраўдвалася:

— Гаспадарка чакае. Лепш вы да мяне прыязджайце.

— Дык хоць паснедайце, — запрасіў зяць.

— У нас на сняданак мюслі з малаком, мёд з марцыпанамі, — сказала старэйшая ўнучка Даша.

Пра такія стравы Марыля ніколі нават не чула, таму схлусіла:

— Неяк з раніцы не прывыкла есці. Страваванне на старасці не тое.

Рабіць няма чаго, зяць сабраўся, адвёз цешчу на вакзал і пасадзіў на аўтобус. Дарога мінула, як імгненне.

Увайшоўшы нарэшце ў родную хату, жанчына дастала сала, цыбулю, пасмажыла яечню. Неўзабаве аб'явілася суседка Ганна і пацікавілася:

— Ну, як з'ездзіла?

— І не пытай, суседачка, — махнула сяброўка рукой. — Зусім дрэнныя справы ў маіх. Дзеці ў рваных штанах ходзяць, гарбузы ядуць, якія я свінням скормліваю. Вось зараз пасылку збяру: сала, яек, гародніны. Ды яшчэ грошай перавяду.

— Няўжо? — завойкала суседка. — Мае там таксама, мабыць, зубы на паліцу паклалі. Трэба ратаваць дзяцей.

Яна хуценька пабегла да сябе. А Марыля прынялася збіраць усё неабходнае, каб дзеці былі сытыя і на звычайныя гарбузы нават не глядзелі.

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*




Алег ПАПОЎ.




Пётр КОЗІЧ.




Я гонар свой за грошы не прадам,
З рук прайдзісвета не патрэбен хабар.
Найлепшы дар – усмешкі мілых дам;
Хто любіць вершы – той найлепшы сябар.



* * *

Нібы ў ката, жыццё маё цяпер:
Паеў, паспаў, памыўся – вось і вечар.
А ўсё таму, што я – пенсіянер,
Мне даспадобы гэты факт, дарэчы.

* * *

У родны порт спяшаецца марак,
Вяртаецца на базу субмарына,
Бо без Радзімы чалавек – жабрак,
Павінна быць у кожнага Айчына!



* * *

Хоць гэта і не так, здаецца,
Але чым болей аддасцё,
Тым больш самім вам застанецца –
Не я прыкмеціў, а жыццё.



* * *

Дзе сорак кропель эліксіру ўзяць,
Каб затрымаць старэнне на гады?
Каб вопыт – нібы ў восемдзесят пяць,
А арганізм, бы ў трыццаць, – малады!

* * *



Цагліна можа ўпасці з даху,
Калі вяртаешся дадому...
Што нас чакае – невядома:
Жыццё – то коміксы, то жахі.



**Антон АНІСОВІЧ,**
*Дзяржынскі раён,*
*в. Путчына.*







Аляксандр ШМІДТ х 3.



Алег КАРПОВІЧ.




Не пужайцеся насатых, рыжых, лысых ці патлатых.
Жаніхоў — так павялося — выбіраюць не па носе.

* * *

Каб ведала, сябры, ды знала, сакрэт кахання б падказала.
Ды толькі я не чараўніца — гэта прыроды таямніца.

* * *

Калі казаць зусім сур'ёзна,
Пакуль жывы — кахаць не позна.

* * *

Падкрэсліць хочацца наўмысна:
Кахаць і ў сто гадоў карысна.

* * *

Каханне — першая патрэба,
Усё адно, як мёд да хлеба.

**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




— Ты ўсе цукеркі з'еў, а пра сястрычку нават не падумаў! — выгаворвае маці сыну.

— Няпраўда, мама! — адказвае сын. — Я пакуль цукеркі еў, толькі пра сястрычку і думаў, бо баяўся, што яна прыйдзе раней, чым я паспею іх з'есці.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.



**Малюе Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ**















1 серыя
Серыял Вожыка
ПАДМАНАМАНІЯ
Не дай сябе «настрыгчы»...
О-о! Тое, што трэба!


Надакучыла мала зарабляць? Тэлефануйце нам!


Заробак 1000$!


Сям'я будзе вельмі рада!

















Працяг будзе…



Алег ГУЦОЛ.




Алег ПАПОЎ.

## Націск

*Філалагічны жарт*

Патрэбен войску штат –
Папер і ў войску многа...
Пасыльны кліча ў штаб
Салдата маладога.

Дамчаўся ледзь Змітрок,
Не дасць дыханню зладу.
Узяў пад казырок:
– Па вашаму загаду!

Хвалюецца салдат.
Маёр яму:
– Адставіць!
Патрэбен пісар, брат,
А ты ж у нас настаўнік?

То граматны хлапец,
Напэўна, добры й почырк...
Стаіць, маўчыць баец,
Убок адводзіць вочы.

– Чаго ты так панік?
Маёр пытае строга.
– Я проста настаўнíк,
Сказаў яму нябога.

Начальніка сваім
Адказам азадачыў.
– А розніца ж у чым?
У націску, няйначай?

– Прафесія мая,
Па праўдзе, не такая:
Наставіць бугая
На цёлак памагаю.

Бугай наш ого-го!
Галоўнае – наставіць.
А націск у яго –
Ніхто ўжо не папавіць!..

**Фёдар ГУРЫНОВІЧ,**
*г. Салігорск.*

## Філалагічныя замалёўкі

Коні цягнулі да мяне свае морды, якія я пазнаваў з лета, калі вазіў жытнёвыя снапы з поля.

Мой калега па прафесіі.

Закаранелы масквіч.

Незнаёмыя варэнікі даваліся яму цяжка.

А тут камар упіўся госцю ў твар. Ён хлопнуў яго далонню, і на шчацэ застаўся крывавы след.

Мерапрыемства было вельмі каларыйнае, захапляючае.

Сёння спрыяльны час для стрыжкі валасоў – можаце атрымаць дадатковы час для жыцця.

Са сваім прадзедам і прабабкай, ягонай жонкай, я пазнаёміўся, калі быў зусім малым.

Гэта сапраўдны кірмаш славалюбства і бойка прадзюсараў шоў-бізнесу.

Учыніў подзвіг.

У святочным парку было шмат моладзі, смеху і гасцей сталіцы.

**Выпісаў Дзмітрый ПЯТРОВІЧ,**
*г. Мінск.*

## Прыгоды незнаёмкі

Нядаўна ў Слуцку хлопец вырашыў падвезці прыгожую незнаёмку, якая спрабавала спыніць аўтамабіль каля гарадскога кафэ. У машыне маладыя людзі разгаварыліся, і кіроўца прапанаваў працягнуць знаёмства ў яго дома. Дзяўчына пагадзілася.

Пасля распіцця спіртнога гаспадар кватэры заснуў. Гэтым і скарысталася раптоўная госця. Яна забрала ключы ад аўтамабіля і адправілася раз'язджаць па ваколіцах. На жаль, прыгода хутка скончылася, бо машына зламалася. Але нават тады дзяўчына не разгубілася. Яна адшукала грошы, залаты пярсцёнак, навігатар і забрала знаходкі сабе. А аўтамабіль пакінула на дарозе.

Тым часам хлопец, які не ўбачыў сваю маёмасць на месцы, выклікаў супрацоўнікаў міліцыі. Па падрабязным апісанні зламысніцы яны аператыўна высветлілі яе асобу і затрымалі. На гэтым яе прыгоды на волі скончыліся і працягнуцца ўжо ў турме.




## Лавіся, рыбка, вялікая ды маленькая!

У Гарадоцкім раёне жыў-быў браканьер. Аднойчы ён сказаў жонцы:

– Ты пячы пірагі, а я паеду рыбу лавіць. Якраз нераст ідзе, самы час вудзіць!

Не зважаючы на забароны, узяў для гэтай справы сетку, паклікаў у кампанію сябра і рушылі яны да возера Доўгае.

– Лавіся, рыбка, вялікая ды маленькая, – шапталі сябры, седзячы ў лодцы і закідваючы снасці.

І рыба ахвотна падпарадкоўвалася закліку. Шкада толькі, што такую цудоўную рыбалку раптам перапынілі дзяржінспектары. Браканьеры заўважылі іх і паспрабавалі хуценька збегчы, склаўшы ў заплечнік здабычу на агульны кошт каля сямі тысяч рублёў. Ды не паспелі.

Казка для браканьераў закончылася дрэнна. Але гэта добрая навука і мараль для такіх жа несумленных рыбакоў.

## Давярай, але правярай

Трое жыхароў Барысава для сваіх злачынстваў таксама актыўна выкарыстоўвалі сетку. Толькі не рыбалоўную, а сетку інтэрнэту. Яны маніторылі актуальныя аб'явы аб здачы ў арэнду ці продажы нерухомасці і аўтамабіляў.

Потым званілі ўладальнікам і прапаноўвалі адразу, не гледзячы, набыць тавар. Каб пацвердзіць свой намер, яны нават прапаноўвалі тэрмінова пералічыць аванс прадаўцам.

Для гэтага ашуканцам нібыта былі патрэбныя рэквізіты банкаўскай карткі і код для змены лагіна і пароля ў сістэме інтэрнэт-банкінгу. Даведаўшыся іх, мужчыны атрымлівалі несанкцыянаваны доступ да грошай прадаўцоў і пералічвалі ўсе сродкі на падкантрольныя ім банкаўскія карткі.

Такім чынам махінатары ўкралі больш за 15 тысяч рублёў. Зараз зламыснікаў ужо затрымалі, але ўсё ж такі дзіўна, чаму ўсе пацярпелыя так слепа давяралі ашуканцам і прадастаўлялі даныя банкаўскіх картак. Мабыць, да тыповых якасцей беларусаў, накшталт працавітасці, цяпер трэба дадаць яшчэ і даверлівасць.

**Алеся НІКІФАРАВА,**
*г. Віцебск.*



Алег КАРПОВІЧ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Пачытайце дзецям!

Лёля БАГДАНОВІЧ

## Падарунак ад феі

*Гісторыйка*





Палінка — звычайная дзяўчынка, якая жыве ў двухпакаёвай кватэры разам з мамай. Пяшчотная, старанная. Вучыцца ў пятым класе. І, трэба сказаць, вельмі добра, бо нават на канікулах рашае задачы. Бабуля з дзядулем не могуць нарадавацца на Полечку, і яна іх таксама моцна любіць, таму амаль усё лета гасцюе ў старых. Дапамагае мыць посуд, выцірае пыл і пыласосіць дываны. А бабуля з радасцю гатуе для яе розныя прысмакі, купляе пернікі, цукеркі, шакаладкі. Збірае Полю ў школу і набыла для яе новы ранец, школьную форму, туфлікі, паліто, куртку, боцікі. Адным словам, песціць малую.

Як і ўсе дзеці, Поля бегае з сяброўкамі на пляцоўку пагуляць. Ходзіць глядзець мульцікі ў кінатэатр непадалёку ад бабулінай хаты.

І, як і ва ўсіх дзяцей, у Палінкі мяняюцца зубкі. Калі ён выпадае, зубік гэты, дзяўчынка кладзе яго пад падушку са словамі:

— Фея-феечка, я табе — зубік, а ты мне — грошык.

І раніцай пад падушкай замест зубіка малая знаходзіць дзесяць долараў.

Вось і гэтым разам Поля старанна і цярпліва хістала свой зубік, так што той нарэшце выскачыў. Як і заўсёды, ідучы спаць, дзяўчынка паклала яго пад падушку.

Але бабуля, якая падрыхтавала ўжо грошы, на гэты раз забылася своечасова памяняць зубік на грошык. Раніцою ўспомніла:

— Дзед, а дзед, што будзем рабіць? Зусім я забылася на зубік Палінчын...

— Дык у чым справа? Зрабі гэта зараз.

— А калі малая ўжо не спіць?

— Ды спіць яшчэ, спіць. Ідзі ды памяняй хуценька.

Пайшла бабуля, прасунула руку пад падушку. Дастала зубік, паклала на яго месца грошы і ціхенька прашмыгнула на кухню.

А тут і Поля прачнулася. Прыйшла памыць тварык і зубкі пачысціць.

— Ну што, унучка, прынесла табе фея грошык? — пазіраючы на малую паверх акуляраў, запытаўся дзядуля.

— Якая фея?! Вазьміце ваш грошык і аддайце мой зуб! Пакладу пад падушку зноў. Можа, заўтра фея зробіць абмен.

— Ты што, унучка? Што ты прыдумала?

— Не я прыдумала, а вы. Я чула, як бабуля даставала з-пад падушкі зуб і клала туды грошык.

— Гэта ж фея была, Полюшка, — спрабавала апраўдацца бабуля.

— Якая фея?! Ды чула я, як вы шапталіся з дзедам на кухні. А яшчэ мяне вучылі, што хлусіць нядобра.

І з гэтымі словамі Палінка пабегла ў свой пакой.

*г. Барысаў.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.



Алег ПАПОЎ.

У нас у гасцях

# Бярозка

## Анекдоцікі



Паляўнічы расказвае ў гасцях пра мядзведзя:

– Гэта такі небяспечны звер! Калі ад яго пабегчы – ён за вамі пабяжыць! Калі ад яго паплыць – ён за вамі паплыве!

– А калі ад яго схавацца? – пытаецца хтосьці з гасцей.

– Не дапаможа! – уздыхае паляўнічы. – Бо ён ад вас таксама схаваецца!



* * *

У кабінет да псіхіятра запаўзае мужчына з нейкім дротам у зубах. Псіхіятр:

– Вой, хто да нас прыйшоў? Коцік, пэўна ж?

Мужчына, не адказваючы, паўзе ўздоўж сцяны. Доктар ідзе следам:

– Не, не коцік! Ты ў нас сабачка, так?

Мужчына мацае рукой плінтус і паўзе далей. Псіхіятар не адстае:

– Ты, напэўна, вожычак? Што, не вожычак? Тады – чарапашка?

Мужчына вымае з роту дрот і паварочваецца да урача:

– Ты дасі мне спакойна інтэрнэт у гэты кабінет правесці?



* * *

Маленькая дзяўчынка пытаецца ў дзядулі:

– Дзеда, а што гэта за ягады?

– Гэта чорныя парэчкі.

– А чаму яны чырвоныя?

– Ды таму, што зялёныя!






Зацірка – масажыстка.

Козыт – пастушок казінага статку.

Кур'ер – ліса.

Поўня – бочка.

Ранак – невялікая рана.

Фанцік – фанат-пачатковец.

Фермент – рабочы на ферме.

Фундатар – закладчык фундаменту.

Шыпшына – падкова.



**Даслаў Мікалай НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*

* * *

– У мяне для вас дзве навіны: добрая і дрэнная. З якой пачаць?

– Давай з добрай!

– Добрая навіна ў тым, што я не скажу вам дрэнную.

– А дрэнная тады ў чым?

– Што я не скажу вам добрую.



* * *

Згубіўся сабака і маці папрасіла сына напісаць некалькі аб'яў і расклеіць іх. Праходзіць тыдзень, другі – ніхто не адзываецца.

– Ты што ў аб'явах напісаў? – пытаецца маці.

– Шарык, да мяне! – адказаў сын.

### «Павучальнік»

– Не туды кладзеш шкарпэткі,
Не так кашу варыш дзеткам.
Вешай у куток ручнік –
Я да гэтага прывык.

Ну, хто клеіць так шпалеры?
Выпацкала фарбай дзверы...
У суседа рамонт файны,
Толькі ў нас – няма дызайну!

Ты мачанку пасаліла?
Посуд з содаю памыла?
Выкінь гэты сродак пральны,
А вазьмі такі, звычайны.

І пірог твой – нібы брус,
Толькі пэцкае абрус.
І не ўдаўся твой варэнік,
Хоць паклала вішняў жменю.

Столькі крытыкі, дакору
Ў словах мужа-кантралёра.
Павучае ён ахвотна –
Вось і ўвесь мужчынскі клопат.

Лепш бы сам за справу ўзяўся –
Вось тады б і разабраўся.
А хто гэты верш чытае,
Можа, і сябе пазнае.

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




## Дзякуй вам, козы!

*З натуры*

Адвячоркам люблю сядзець на лавачцы ў вёсцы. У летні час ездзім адпачываць у невялікі домік, які застаўся ад мужавых бацькоў. Міма праходзяць аднавяскоўцы, вітаюцца. Вось баба Зося пагнала дзвюх козачак. Зірнула на коз – і ўспаміны ажылі...

Мне было дваццаць гадоў, а мо крыху болей. Я пазнаёмілася з добрым хлопцам, звалі яго Андрэй. У нас завязалася сяброўства, якое потым, як мне падалося, перарасло ў каханне. Аднойчы Андрэй запрасіў мяне ў госці ў вёску да сваёй матулі і бабы Веры, якой спаўнялася семдзесят гадоў. Я згадзілася.

Калі прыехалі, стол быў накрыты – пастаралася старэйшая сястра кавалера. Сабраліся госці. Чарка, другая – і хата загула, як вулей. Пачало цямнець, і маці Андрэя запытала:

– А хто сёння прывядзе коз з поля?

Не ведаю, чаму, але я паднялася і крыкнула:

– Не турбуйцеся, я прывяду!

Выбегла з хаты, мінула садок. Дыхаецца ў вёсцы лёгка. Прайшлі па сяле з поля кароўкі. У паветры з'явіліся пахі малака, сырадою. А вось і козы мае. Вырвала колік, пацягнула ланцуг да сябе. Козы глядзелі на мяне, вылупіўшы вялікія вільготныя вочы.




Пётр КОЗІЧ.

— Што? Не гаспадыня? Прывыкайце, хутка буду ёю! — я зноў пацягнула за ланцуг. Козы так рванулі да мяне, што я ўпала на жывот, і яны пацягнулі мяне па траве. — Ах, вось як! Не! Вы мяне не пасароміце! Быць не можа, каб я вас не адолела! — пракрычала я і з апошніх сіл стала цягнуць ланцуг.

— Ме-э-э-э! — раўлі козы і пярэднімі нагамі ўпіраліся ў зямлю. Я волакам цягнула іх па траве, яшчэ некалькі разоў падала, параніла каленкі да крыві, але ўсё ж такі закрыла ўпартую жывёлу ў хлеўчык. Пастаяла, аддыхалася, выцерла кроплі поту з ілба і падумала: «Гэта ж я каля гадзіны тузалася з вамі. А кавалер, за якога сабралася замуж, і не патурбаваўся, дзе я прапала».

Увайшла ў хату. Госці былі на добрым падпітку. Андрэй нават і не звярнуў увагі на мае параненыя каленкі, а баба Вера весела сказала:

— А мы думалі, што ты іх падаіць вырашыла!

Маці Андрэя зірнула ў акно і крыкнула:

— Цішэй вы! У Сымоніхі, відаць, бяда! Нешта з малым здарылася...

Госці прыціхлі. Праз некалькі хвілін на парозе хаты з'явілася сама Сымоніха і ціхім асіплым голасам прамовіла:

— Верка, на дварэ сцямнела! Чаму ты не забіраеш з поля коз? Маіх укралі, украдуць і тваіх. Толькі малачком і падтрымлівала жыццё Сымона... Што з ім цяпер будзе?

Госці павярнуліся да мяне. Грымнуў рогат, ажно шыбы задрыжэлі ў рамах. Больш за ўсіх смяяўся кавалер. А я, расчырванеўшыся, падумала: «Не хачу за яго замуж! Пайду збірацца, каб паспець на апошнюю электрычку».

**Даслала Ганна ПРЫЁМКА,**
*г. Мінск.*




Пётр КОЗІЧ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.

# Каханне


*Байка*


Суседаў Певень — ладны, гладкі, —
Ў чужым двары знайшоў Чубатку.
Ён доўга тупаў, кукарэкаў,
Глядзеўся збоку недарэкам.
Насіў зярняты проса, грэчкі...
Смяяліся ў хляве Авечкі:
— Ты бе-бе-бе без галавы!
Там певень свой, хоць ледзь жывы!
Ды наш герой не адступае
І на куратнік насядае.
Пачысціў хвост, шліфуе дзюбу —
Усё, каб спадабацца любай.



Раз запыніў яе ў двары,
Ды ўбачыў Певень іх стары.
Ён доўга час не марнаваў,
З разгону крылы абламаў,
Начысціў грэбень, выбіў зуб —
І трапіў кавалер у суп.
Тым часам Курка маладая
Увішна яйкі адкладае.
Старому Пеўню ўсё сакоча,
Што толькі з ім яна жыць хоча.

Каб грэбень у бяспецы захаваць,
Ў чужы куратнік лепш не заглядаць!





**Любава ВЛАДЫКА,**
*г. Мінск.*

## Мая настаўніца

*Усмешка*

Ірына Вітальеўна прыйшла да стаматолага, уселася ў крэсла. Той нешта шпарка пісаў у картцы, потым памыў рукі і падаўся да яе.

«Нейкі падобны да Сашкі Гуськова — майго аднакласніка», — падумалася ёй. Зазірнула ў талончык — дакладна: Аляксандр Іванавіч Гуськоў! Як жа пастарэў, скроні сівыя, маршчынкі пайшлі, ды і фігура не тая...

— Адкрывайце рот! — прамовіў доктар.

— Саша, ты мяне што, не пазнаў? Ты быў у маім класе! — ускрыкнула кабета.

— Прабачце, нешта зусім не прыгадваю, — збянтэжыўся мужчына. — А які прадмет вы выкладалі?

**Падслухала Алена БАСІКІРСКАЯ,**
*г. Міёры.*



Аляксандр ШМІДТ.

## Ходзяць чуткі…

*З натуры*

Кажуць, як заканчваецца месяц, дык у бухгалтэрыі запарка. Ну, а калі год? Тут справаздачам канца не бачна. Працаваць даводзіцца звыш адведзенага нормай часу. Але бухгалтарка з завода, на якім працаваў мой муж, часта брала работу дадому. Жыла яна ў нашым пад'ездзе, паверхам ніжэй.

І вось муж перад канцом года панёс да яе нейкія важныя паперкі, каб закрыць баланс. Так ён сказаў мне.

Калі ў кватэру пазванілі, я вырашыла, што вельмі ж хутка муж справіўся. Адчыніла дзверы і ўбачыла Зінаіду Віктараўну, суседку з першага паверха.

— Заходзьце! У вас да мяне нейкая справа? — і думаю: «Здаецца ж, з сынам у школе праблем няма. Хлопчык добра вучыцца, нічым асабліва не вылучаецца. Якія могуць быць прэтэнзіі?»

— Але. Справа сапраўды важная, — ціха пачала суседка. — Вас не хвалюе, што ваш муж, не саромячыся суседзяў, апошнім часам часта заходзіць да Лізаветы Цімафееўны?

— Не, — кажу. — Яны працуюць разам, таму ёсць розныя агульныя клопаты. Таму і заходзіць.

— Даверлівая вы вельмі, — кажа Зінаіда Віктараўна. — Ходзяць чуткі, што гэтая бухгалтарка — ягоная палюбоўніца.

— Яна старэйшая за яго на дзесяць гадоў, нядаўна пахавала мужа, якое ўжо тут каханне? — не згадзілася я.

— Узрост яшчэ ні пра што не гаворыць, — парыравала суседка. — Вы паглядзіце на Пугачову і Галкіна. Мезальянс!

— Не буду я на іх глядзець, а па сакрэце вам скажу: каб вы ведалі маіх палюбоўнікаў, дык адразу б супакоіліся, — з хітрынкай у вачах пачала я. — Гэта такія мачо! З маім мужам не параўнаеш. Вось ён і хоча, каб я яго раўнавала, таму і заходзіць да Лізаветы Цімафееўны. У вас да мяне яшчэ якая справа?

— Не, не! — Зінаіда Віктараўна адразу выйшла. Выгляд у яе быў разгублены.

Калі муж вярнуўся, я ўважліва агледзела яго з ног да галавы. Не паголены. У тапках з дзіркамі, у старых трэніках. Справіўся хутка. І першае, што сказаў:

— А боршч у цябе яшчэ ёсць? Есці хачу.

Вось такі мачо. Пра якога ходзяць чуткі.

А цяпер будуць хадзіць і пра мяне!

**Даслала Зоя НАВАЕНКА,**
*Глыбоцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*

## «Каціны кароль»

*Быль*



Гісторыя гэта адбылася ранняй вясной у адным з райцэнтраў Беларусі. Лёд на рэчцы, што працякала паблізу горада, яшчэ толькі сышоў. Таму рыбакі бавілі час да адкрыцця сезона, збіраючыся вечарамі ў клубе рыбаловаў-аматараў.

Неяк раптоўна ў ім з'явіўся Адам Каралёў і адразу апынуўся ў цэнтры ўвагі. Ён красамоўна і пераканаўча апісваў свае рыбацкія прыгоды: лоўлю самоў, барацьбу з метровымі шчупакамі і пудовымі сазанамі. Не паверыць было проста немагчыма. А тыя нямногія, у тым ліку і я, каму пашанцавала пабываць у яго ў гасцях, з захапленнем расказвалі пра дзіўныя прынады: японскія спінінгі, самападсякаючыя донкі, нарвежскія кручкі. Ды вялізную бібліятэку з кнігамі па рыбалоўстве. Асаблівую зайздрасць у наведвальнікаў выклікалі развешаныя на сценах фатаграфіі гаспадара са сваімі трафеямі.

— Ну, гэты ўсіх абловіць, — папаўзла чутка па горадзе. — Кароль рыбалкі!

Усе з нецярплівасцю чакалі першага выезду на раку. І нарэшце запаветны дзень надышоў. На рэчцы рыбакі хутка разбегліся па даўно аблюбаваных месцах. Адам Каралёў, крыху патаптаўшыся, прыладзіўся недалёка ад мяне.

Дзянёк выдаўся цудоўны. Прырода нібыта вырашыла ўзнагародзіць нас за доўгае цярпенне, і клёў быў няспынным. Рыба брала на ўсё: на чарвяка, матыля, апарыша, цеста і хлеб. І толькі ў Каралёва клёву не было. Ён сцёбаў па вадзе лёскай, пераходзіў з месца на месца, але акуні і плоткі ігнаравалі фірменныя кручкі. Неўзабаве мужчыне надакучыў гэты бессэнсоўны занятак, і ён пачаў бегаць па беразе ды галасна даваць карысныя, на яго погляд, парады іншым рыбакам.

— Як клюне, адразу падсякай! — крычаў ён. — Куды ты цягнеш? Кругамі, кругамі вадзі!

Зразумела, што лаўцам гэта не спадабалася. Таму праз кароткі час у не зусім ветлівых выразах «Каралю рыбалкі» далі зразумець, што ў яго павучэннях няма патрэбы. Той пакрыўдзіўся, зматаў вуды і пайшоў напралом праз кусты, прыхапіўшы вялізны рукзак.

Непрыкметна надышоў вечар. Задаволеныя, рыбакі гуртам рушылі на станцыю. Раптам, праходзячы каля кустоў, пачулі выкрыкі:

— Пайшлі прэч, праклятыя! Вось я вам зараз!

А калі падышлі бліжэй, убачылі маляўнічую сцэну: на беразе мітусіўся і размахваў вудзілам Адам, а побач з ім паўкругам сядзеў з дзясятак катоў.

— Што здарылася? — здзіўлена запытаўся я.

— Бутэлечку з валяр'янкай разбіў, а гэтыя заразы тут як тут, — патлумачыў той.

— Навошта табе яна здалася? Ты што, сардэчнік?

— Ды не! У цеста дадаваў, каб рыбу прывабіць, — небарака са злосцю сплюнуў і пачаў шпарка збірацца.

У адказ яму грымнуў моцны рогат.

— Ты яшчэ б сам валяр'янкай абмазаўся! — крыкнуў нехта з рыбакоў і дадаў: — Сапраўдны «Каціны кароль»!

З тых часоў мянушка так і прыліпла да Адама. І нават сёння няйначай як «Каціны кароль», яго ніхто не называе.

**Валерый КАВАЛЬЧУК,**
*г. Гомель.*

## Гаспадыня

Сусед, крыху «сагрэты»,
Спытаў мяне пры чарцы:
«Ці робіць што кабета
Твая па гаспадарцы?»

Адказваю: «Бясспрэчна!
Ёсць у яе забава.
На кухні жонка вечна
Сваёй занята справай».

Той шчыра пазайздросціў:
«Табе пашанцавала!
Пакліч хоць раз у госці
На бульбачку ды сала».

Я рассмяяўся: «Браце!
Ад голаду мы спухнем,
Бо тэлефон у хаце
Стаіць якраз на кухні!»

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*




Андрэй СЛУЦКІ.

# Чорны гумар

Цешча пытаецца ў зяця:

— А гэта сапраўды спецыяльны смартфон для сэлфі?

— Ды фоткайся хутчэй!

— Але чаму ён у форме ружжа?

— Фоткайся, кажу!

* * *

Маці і бабуля распавядалі малому Толіку, што дзяцей знаходзяць у капусце. Пасля гэтага хлопчык вельмі падазрона глядзеў на смажаную капусту з мясам.

**Даслаў Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*



Алег КАРПОВІЧ.



Алег ГУЦОЛ.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

**Нічыпар ШЭРАНЬКІ**

# *Кветкі*

Ах, якія ж у Анэткі
Пад акном красуюць кветкі!
Гляне дол з-пад снегу лысы,
Як уздыбяцца нарцысы.
Ну, а потым вокам кінь ты —
Раскашуюць гіяцынты.
Як зазелянеюць гоні —
Заквітнеюць і півоні.
Несупынна год каторы
Сэрца ные у Хвядоры.
Як на кветнік паглядзіць —
Аж душа ёй забаліць.
І зусім, здаецца, згіне,
Калі пусціць цвет вяргіня.
І Анэту як ні стрэне:
— Адкапай таго карэння!
Ды пярэчыць ёй Анэта,
Кажа вечна:
— Ёсць прыкмета:
Як падзелішся — звядзецца!
Толькі марыць застаецца.
І паклікала Хвядора
Яе мужа на ўгаворы.
Той заўжды з чырвоным носам
Ходзіць з Бронюсем-п'янтосам.
План прыдумала няхітры —
Здабыць корань за паўлітра.
Нейк прынеслі ў дзень вясенні
Два п'янтосы ёй карэння.
Сэрца радасцю ўзвіхрыла —
Пад акном і пасадзіла.
А калі гразота спала,
Ледзь усходаў прычакала.
Хутка, хутка закрасуе!
Ды душа з трывогай чуе:
Вельмі ж куст падобны новы
На заплотны — палыновы.
Як, спрытнюгі, ашукалі!
І нясуцца гневу хвалі.
Дзе ні трапіцца каторы
Ў рукі дужыя Хвядоры,
Страсяне — пачуе пяты:
— Во, пасобіў, чорт патлаты!

*г. Мінск.*






Пётр КОЗІЧ.




Алег ГУЦОЛ.




Алег КАРПОВІЧ.




Жанчыны здольныя на ўсё, мужчыны — на ўсё астатняе.

*Анры дэ Рэнье, французскі пісьменнік*

Удалыя шлюбы заключаюцца толькі паміж сляпой жонкай і глухім мужам.

*Эразм Ратэрдамскі, нідэрландскі пісьменнік*

Дарогі, якія нікуды не вядуць, заводзяць далей за ўсё.

*Жорж Вальфром, французскі літаратар*

Чым больш я сталею, тым больш не давяраю вядомай фразе, якая сцвярджае, што мудрасць прыходзіць з гадамі.

*Генры Менкен, амерыканскі крытык і публіцыст*

Калі ў нас няма сапраўдных хвароб, навука ўзнагароджвае нас прыдуманымі ёю.

*Мішэль дэ Мантэнь, французскі філосаф-гуманіст*

Жанчына створана для таго, каб яе кахаць, а не для таго, каб яе разумець.

*Оскар Уайльд, англійскі пісьменнік*

Разважаць з дурнем — гэта запальваць свечкі для сляпых.

*П'ер Буаст, французскі лексікограф*



Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 6 (1545), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ПРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 05.06.2017. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,21. Тыраж 905 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Алег КАРПОВІЧ.

# Вакол бутэлькі




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Андрэй СЛУЦКІ.




Мікола ГІРГЕЛЬ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.

# «Вожыкаўскі плакат»

Алег КАРПОВІЧ.



*Хоць летам працы шмат на градцы —*
*Не забывайся падпісацца!*

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**
**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**
**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381**.



**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2017 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 4,00 рублёў,
індэкс 01380, цана 3,20 рублёў,
індэкс 748442, цана 11,30 рублёў,
індэкс 01381, цана 9,00 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

